// БЕЛАРУСКІ ЗВОН

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Вострабрамская вул. 9 (Ostrobramska 9). Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праудзівым прозьвішчам аутара і адрэсам для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана кожнага нумару 50 м. Падпіска на 3 месяцы каштуе 600 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 200 мк., сярод тэксту 300 мк. і на апошняй страніцы 120 мк. за радок пэтыту у 1 шпальт.

Год II. Вільня, Пятніца, 25-га жніўня 1922 г. № 16 (41).

## Начальнік Польскае Дзяржавы дэкрэтам ад 18-га жніўня г. г. абвясьціў аб выбарах у Сойм на 5-га лістапада, а у Санат на 12-га лістапада г. г.

# ГРАМАДЗЯНЕ!

9 гэтага жніўня ў месьці Вільні заснаваўся

**БЕЛАРУСКІ ЦАНТРАЛЬНЫ ВЫБАРНЫ КАМІТЭТ**

для усіх Беларускіх зямель у межах Польскае Рэспублікі.

Камітэт приступіў ужо да арганізацыі выбараў, маючы на мэце правясьці ў Сойм і Сэнат дэпутатаў, якія шчыра будуць **бараніць нацыянальныя правы беларускага народу, правы нашага працоўнага сялянства і работнікаў, грамадзкую, палітычную і рэлігійную волю для ўсіх грамадзян краю бяз розніцы нацыянальнасьці і вызнаньня.**

„На Беларускіх абшарах **уся зямля тутэйшаму працоўнаму сялянству!**“ —вось кліч, напісаны Камітэтам на яго штандары.

Абвяшчаючы гэта, Беларускі Цантральны Выбарны Камітэт горача заклікае усіх Беларусаў приступіць да выпаўненьня свайго **грамадзкага абавязку**, згуртавацца каля Камітэту, аб'яднаць свае сілы і безадкладна закладаць акружныя і абводавыя выбарныя Камітэты у-ва ўсіх выбарных акругох, дзе ёсьць беларускае насяленьне, адносячыся з поўнай верай да камісараў і агентаў Беларускага Цантральнага Выбарчага Камітэту.

Адрэс Камітэту: **Вільня, Віленская вуліца дом № 12 кв. 6.**

Усімі выбарнымі справамі кіруе **ПРЭЗЫДЫУМ КАМІТЭТУ** у гэткім складзе:

**Старшыня:** *Антон Луцкевіч.* **Тав. Старшыні:** *Бранíслау Тарашкевіч.*

**Скарбнік:** *Кс. Адам Станкевіч.*

**I Сэкрэтар:** *Міхал Кахановіч.* **II Сэкрэтар:** *Леапольд Родзевіч.*

**Кандыдаты:** *Фабіян Ярэміч, Мікалай Красінскі, Вячэслау Багдановіч.*

**Сябры Прэзыдыуму, дэлегаты ад расейскае меншасьці:**

*Уладзімір Самойло* *Сяргей Качаноускі.*

### Сябры Беларускага Цантральнага Выбарнага Камітэту:

Аляхновіч Ф., Арэхва Л., Аўдзей В., Абрамчык М., (Вялейскага пав.) Більдзюкевіч А., (Радашкавічы) Кс. Бароўка. (Ашмяншчына) Богдановіч В., Гарэцкі Максім, Гапановіч І., (Будслаў, Дунілавічск. пав.) Дубейкоўскі Л., Жаўрыд (Лунінецкі пав.) Кахановіч М., Красінскі М. Курыль З., (г. Вялейка) Куніцкі Т., Луцкевіч А., Прот. Пліс, Кс. Пятроўскі (Вялейскі пав.), Паўкшта Э., Рак-Міхайлоўскі С., Родзевіч Л., Семашкевіч (Віленскі пав.), Знамяроўскі У., Станкевіч Ст., Кс. Станкевіч А., Кс. Стэповіч (Свянцянскі пав.), Тарашкевіч Б., Тамашчык (Горадня), Трэпка А., Уласаў А. (Радашкавічы), Фарботка Я., Цітавіці (Навагрудчына), Прот. Юзвюк У. (Ашмяншчына), Ярэміч Ф. (Валкавыск).

# Грамадзяне! Пільнуйце, каб вас упісавалі ў сьпіскі выбаршчыкаў!

## Дзеля самаабароны.

Кожын народ імкнецца да волі, а найлепш забясьпечывае яму волю дзяржаўная незалежнасьць.

Толькі ў сваей дзяржаве кожын народ можа быць поўным гаспадаром сваей долі і свайго шчасьця.

Але ня ўсім народам удаецца жыць незалежным дзяржаўным жыцьцём. Не ўдалося дагэтуль зьдзейсьніць сваіх дзяржаўных ідэалаў і Беларусам.

Беларусь падзелена на некалькі часьцін. Усходняя Беларусь знаходзіцца ў межах Расеі, дзе частка яе выдзелена ў асобную дзяржаўную арганізацыю, як Беларуская Савецкая Социялістычная Рэспубліка. Але гэта — толькі малая частка...

Паўночна-Заходні край Беларусі адыйшоў да Латвіі. Дэмократычны латвійскі народ, які сам многа мук спазнаў ад панаваньня чужынцаў, працягнуў братнюю руку беларусам і ў сваей дзяржаве дае ім поўную свабоду жыць і разьвівацца.

Заходняя Беларусь прылучана да Польскае Рэспублікі. І хаця польская канстытуцыя н а п а п е р ы забясьпечывае беларускаму насяленьню шырокія правы, аднак, н а д з е л е беларусы ў межах Польшчы зьяўляюцца самымі бязпраўнымі, самымі пакрыўджанымі паміж народаў, падуладных Польшчы.

У Польшчы для беларусаў н я м а к о н с т ы т у ц ы і!

Штодзенныя гвалты над беларусамі з боку польскае адміністрацыі і польскага панства, зачыняньне беларускіх школ, высылкі вучыцялёў, разьбіваньне беларускіх коопэратываў, раздаваньне беларускае зямлі чужынцам-колёністам — вось якія доказы бязпраўнасьці над намі.

З гэтым мы павінны энэргічна бароцца, бо інакш такое палажэньне можа давясьці да поўнага зьнішчажэньня беларускае нацыі ў межах Польскае Рэспублікі.

Бароцца — але як?

Дагэтуль мы былі зусім беззашчытнымі. Пратэст быў адзіным адказам на гвалты і зьдзекі над намі, але і яго глушыла адміністрацыя. А там, дзе наш голас мог-бы запраўды мець вагу, мы гэтага голасу ня мелі: ў Сойме беларускіх дэпутатаў ня было.

Цяпер перад намі адкрываецца магчымасьць самаабароны: 5 лістапада гэтага году адбудуцца выбары ў варшаўскі Сойм, а 12 лістапада — ў Сэнат, і гэтым разам і беларускаму насяленьню даецца права выбіраць дэпутатаў.

Праўда, права гэтае — куртатае: выбарны закон уложаны Соймам так, каб „нацыянальныя меншасьці“ значыць, і беларусы, не маглі правясьці належнае ім лічбы дэпутатаў. Цяжка будзе выбраць нам тых, каго мы хочам, каму верым, і дзеля другіх прычын. Нашы ворагі, якія цікуюць на нашу пагібель, якія перад усім сьветам ня стыдаюцца казаць, быццам „беларусаў тутака няма“, пусьцяць у ход і подкупы, і адміністрацыйны націск, і ўсялякія штукі, каб перашкодзіць нам зьдзейсьніць навет і гэнае куртатае права.

Тым больш энэргіі, солідарнасьці і сьвядомасьці павінны мы выявіць на гэтых выбарах. Усе беларусы, хто жыў — і мужчыны, і жанкі, — павінны рушыць на выбары і сваімі галасамі выбраць запраўдных абаронцаў нашага народу. Тым больш аднадушны адпор павінны мы даць паном і ўсялякім іхным наймітам, якія за юдавы срыбнікі будуць старацца абаламуціць наш народ і пагрозамі ды пасуламі намовіць падаваць галасы за паноў і ўсякіх чужынцаў.

А перад усім павінны мы пільнаваць, каб кожын беларус, які мае права голасу, меў і магчымасьць скарыстаць з гэтага права. Трэба канечна дагледзіць, каб кожын быў акуратна запісаны ў выбарныя сьпісы, каб нікога не абмінулі пры укладаньні сьпісаў у гмінах (валасьцёх), мястэчках і местах. Мы ведаем, што шмат дзе адміністрацыя ня хоча прызнаваць адвечных жыхараў гэтага краю паўнапраўнымі грамадзянамі Польскае Рэспублікі. Гэткія „разьясьненьні“ будуць асабліва частыя пры укладаньні сьпісаў выбаршчыкаў, і за гэтым трэба асабліва сачыць і ўраз-жа пратэставаць, паведамляючы або свой акружны выбарны Камітэт, або Беларускі Цэнтральна Выбарны Камітэт у Вільні.

Гэта — першы наш крок у здабываньні магчымасьці абароны ў Сойме нашых правоў. А другім крокам будзе дапільнаваньне, каб усе беларускія галасы былі пададзены за сваіх беларускіх кандыдатаў — за той нумэр, які абвесьціць Беларускі Цэнтральны Выбарны Камітэт.

*І. Мялешка*

## Блёк нацыянальных меншасьцей.

Перад сваім сканаsucceeded Варшаўскі Сойм выдаў закон аб выбарах у новы Сойм Польскай Рэспублікі.

У старым Сойме былі бадай адны толькі польскія дэпутаты, ня лічучы малое жменькі жыдоў і немцаў. Было гэта затым, што ў часе выбараў дэпутатаў у гэны Сойм ані Беларускія, ані Украінскія землі, ані Шлёнск і др. да складу Польшчы не належалі.

Вось-жа, стары Сойм так улажыў новы выбарны закон, каб і ў чародны Сойм па магчымасьці найменш папала дэпутатаў ад няпольскага насяленьня тых зямель, якія прылучаны да Польшчы ўжо пасьля ўтварэньня старога Сойму. Дзеля гэтае мэты зроблена вось што.

Усіх дэпутатаў у новым Сойме павінна быць 444. Аднак, агульнымі выбарамі будуць выбірацца ўсяго толькі 372 дэпутаты, рэшту-ж дэпутацкіх месц без ніякіх выбараў дастануць тыя партыі, якія пры падачы галасоў выбралі найвялікшыя лічбы дэпутатаў.

Офіцыяльна тлумачаць, быццам гэта зроблена дзеля таго, каб у Сойме ня было лішне многа дробных партый, якія ўсьцяж між сабой сварацца і не даюць Сойму працаваць, як сьлед. Аднак, праўдзівая мэта ўвядзеньня так-званых «дзяржаўных сьпіскаў» („listy państwowe“), паводле каторых вялікія партыі бяз выбараў дастануць 72 лішнія мандаты, тое, каб такім спосабам урэзаць месца „інародцам“: бо-ж ясна, што кожная няпольская нацыя асобна ў межах Польскае Рэспублікі становіць такую меншасьць, што напэўна з гэных 72 мандатаў ніводнага не дастане.

Але знайшоўся спосаб, каб і гэту крыўду зьвясьці. Усе нацыянальныя меншасьці Польскае Рэспублікі змовіліся, аб'ядналіся і стварылі выбарны блёк (хаўрус), ідучы на выбарах разам — па адным сьпіску. Ведама, кожын выбарны акруг будзе выбіраць такіх дэпутатаў на прызначаныя яму месцы, якіх сам захоча, але ўсе акругі з няпольскім, ці мешаным насяленьнем заяўляюць, што яны далучаюцца да супольнага „дзяржаўнага сьпісу“, — гэта значыць, што пры падзеле гэных 72 дэпутацкіх мандатаў усе «інародцы» выступаюць як адна партыя. Такім чынам на блёк нацыянальных меншасьцяў выпадзе з тых 72 месц ня менш мёсц, чым на якую хоч вялікую польскую партыю. А пасьля сябры блёку падзеляць дадатковыя месцы між сабой па справядлівасьці.

Вось якую вестку мы атрымалі з Варшавы:

17 *гэтага жніўня ў Варшаве на канфэрэнцыі прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцей у Польскай Рэспубліцы, а іменна: беларусаў, жыдоў, немцаў, расейцаў і украінцаў, — закладзены выбарны блёк гэтых меншасьцей, які мае на мэце зьвясьці крыўду, учыненую ім законам аб выбарах у Сойм і Сэнат. Адначасна утвораны* **А'бяднаны Выбарны Камітэт Нацыянальных Меншасьцяў.**

Мы горача вітаем гэты блёк і з глыбокай верай сулім яму вялікую ўдачу.

М. Малішэўскі.

✦✦✦✦

## Выбарная ардынацыя.

18 жніўня г. г., пасьля гадавой адцяжкі Сойм прыняў, урэшце, закон аб выбарах у Сойм і Сэнат.

Выбарны закон сваімі асновамі апіраецца на канстытуцыю Польскай рэспублікі, прынятую Соймам 17 сакавіка 1921 г.

Разгледзім самыя асновы выбарнага закону.

### Актыўнае выбарнае права.

Права выбіраць у Сойм мае кожны грамадзянін Польскай рэспублікі, мужчыны і жанчыны, якім да 18 г. жніўня споўнілася 21 год.

Выбіраць у Сойм мае права кожны грамадзянін, які жыў у даным выбарным акругу да 17 жніўня гэтага году.

Ніякіх іншых цэнзаў закон не прадбачыў.

Кожны выбаршчык мае толькі адзін голас, гэта значыць, што выбаршчык можа галасаваць толькі адзін раз.

Ня могуць прымаць ўчасьце у выбарах вайсковыя, якія служаць у войску. Пазбаўлены права галасаваць усюды і заўсёгды аграніčаныя ў грамадзянскіх правах, асобы, сьпіс якіх вызначаны у § 3 выбар. зак.

Усё, што тут паказана для Сойма адносіцца так сама і да права выбароў у Сэнат, з тымі зьменамі, што выбіраць у Сэнат можа толькі той грамадзянін, якому да 17 жніўня споўнілася 30 гадоў і які ня менш года, лічучы ад 18 жніўня, жывець у даным выбарным акругу.

### Пасыўнае выбарнае права.

Права быць выбраным у Сойм, гэтак завомае пасыўное выбарное права прыналежыць усім грамадзянам, маючым актыўнае права не выключаючы і вайсковых, пры гэтым лічба гадоў павышаецца да 25, а цэнз аселасьці зусім касуецца. Выбіраны можа жыць навет за граніцай.

Нельга толькі выбіраць чыноўнікаў адміністрацыі альбо суда у тым акругу, ў якім яны служаць.

У Сэнат могуць быць выбраныя толькі тыя, каму мінула 40 гадоў.

### Лічэбны склад Сойму і Сэнату.

Усіх паслоў у Сойме будзе 444, а ў Сэнат 111 сэнатараў.

У выбарным законе адзначана, што па акругох павінна быць выбрана 372 паслы ў Сойм і 93—у Сэнат, а па „дзяржаўных сьпісках“ — 72 паслы ў Сойм і 18—ў Сэнат. Адзін пасол у Сойм прыпадае ў срэднім на 60 тысяч насяленьня.

### Арганізацыя выбараў.

Уся тэрыторыя рэспублікі для правядзеньня выбараў у Сойм дзеліцца на 64 акругі. Выборы ў Сэнат адбудуцца па ваеводствах.

Кожны вокруг дзеліцца на абводы (бучасткі).

Галасаваньне ў Сойм і Сэнат адбудуцца па адводах у памешканьні, якое павінна знаходзіцца па магчымасьці ў цэнтры кожнага абвода.

Абвод ёсьць найважнейшая мейсца, ў якім кожны выбаршчык мае магчымасьць выявіць сваю волю і сваё права.

Згодна закона ў абводзе ня можа быць больш, як 3000 жыхароў; каб ад выбаршчыка да памешканьня для выбараў было ня больш як 6 клм. (5 з паловай вёрст); каб вучасткі не тварыліся з розных гмін і іх часьцей.

### Выбарныя Установы.

Для правядзеньня выбараў выбарны закон стварае гэткія ўстановы:

1. Дзяржаўную Выбарную Камісію, якая складаецца з старшыні—Генэральнага Камісара, назначанага Начальнікам Дзяржавы і 8 сяброў, выстаўленых 8-мі найбольшымі партыямі сучаснага Сойму.

2. Акружную Камісію, якая складаецца з 5 сяброў, з якіх аднаго назначае ваевода, а 4-х выстаўляюць самаўрады, гарадскія рады і паветовыя соймікі, а шостага — старшыню назначае Генеральны Камісар.

3. Абвадовую (Вучастковую) Камісію, старшынёй якой назначае Акружная Камісія, аднаго сябру назначае мясцовая адміністрацыя, а трох выбірае гмінная рада.

Установамі надзора, апрача Генеральнага Камісара, з'яўляюцца яшчэ асабліва назначаныя міністэрствам унутраных спраў выбарныя камісары па аднаму на Акружную Камісію.

Установы надзора маюць права перагляду усіх актаў, усяго ходу выбарных спраў і апратэставаньня пастаноў камісіяў у вышэйшую інстанцыю, пры чым апратэставаньне не павінна затрымываць ходу спраў.

Сябрамі Камісіі могуць быць грамадзяне, маючыя права актыўнага выбарнага права, умеючыя чытаць і пісаць папольску і ня выстаўленыя на сьпісках кандытаў.

### Сыстэма выбараў.

Выбарны закон прынімае сыстэму галасаваньня па сьпісках.

Галасаваць трэба за увесь сьпісак, які абазначаецца номярам.

Запісаць у сьпісак кандыдатам можна толькі са згоды самога кандыдата. Пры чым патрэбна, каб ён падаў пісьменную заяву з уласным подпісам старшыне Акружной Камісіі не пазьней як за 22 дні да выбараў аб сваей згодзе, прызнаньне сябе за грамадзяніна Польшчы і што мае права быць выбраным. Сьпісак павінен быць падпісаны ня менш як 50 выбаршчыкамі і перададзены старшыне Акружной Камісіі не пазьней 30 дзён да выбараў. У сьпісак можна памясьціць ня больш, як двайны лік кандыдатаў супроць таго ліка, які прыходзіцца на даны вокруг паслоў.

Пры падачы сьпіска неабходна паказаць Акр. Кам. паўнамоцніка па гэтаму сьпіску і яго заступніка.

Прозьвішчы кандыдатаў азначаюцца на сьпіску намярамі ў парадку першынства пры атрыманьні мандата.

Па адным акругу кандыдат можа значыцца толькі ў адным сьпіску.

### Дзяржаўны сьпісак.

Надзвычайнай асаблівасьцяй выбарнага закону, зьяўляюцца, так званыя, «Дзяржаўныя сьпіскі».

Апрача простых выбараў за акружныя сьпіскі па акругах, выбарны закон уводзіць яшчэ „ня простыя“ па дзяржаўных сьпісках.

